*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**№ 3 (125)**
9 студзеня 1997 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Кошт у кіёсках і крамах — 1500 руб. у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**9 студзеня**

| | |
|---|---|
| Узыход Сонца | 8.57 |
| Заход Сонца | 16.16 |
| Даўжыня дня | 7.19 |

*Маладзік у 6 гадзін 26'*



**Думка расійскага госця**

## Не трэба поўзаць на каленях, шаноўныя землякі...

**Днямі ў рэдакцыю завітаў госць з расійскай глыбінкі — дацэнт горнага інстытута з горада Манчагорска Мурманскай вобласці Аляксандр Пятруннікаў. Ён у свой час выехаў туды з Беларусі. Мы скарысталі такую магчымасць і пацікавіліся ў расійскага госця:**

**— Як жывецца ў Расіі? Ці ўсё так, як паказвае маскоўскае тэлебачанне?**

— Тое, што нам месяцамі не даюць зарплаты, вы, відаць, ведаеце з перадач расійскага тэлебачання, — пачаў наш госць. — Дабаўлю, што і я, і мае калегі атрымліваюць са спазненнем толькі палову зарплаты.

**— А што з другой?**

— Кажуць, аддадуць потым. А калі — ніхто не ведае.

**— Мабыць, у вас у кватэрах цяплей, чым у нас?**

— З чаго ўзялі? У нас снег выпадае рана. У кастрычніку. Дык вось, студэнты сядзяць на лекцыях у паліто і куртках яшчэ з верасня.

**— У чым жа справа? Расія ж багатая энергарэсурсамі...**

— У Расіі цяпер ёсць усё. Былі б толькі грошы. А іх няма.

**— Многія беларусы спадзяюцца, што калі аб'яднаюцца з Расіяй, дык зажывуць лепей. Будзе цёпла ў дамах, запрацуюць заводы. У гэтым іх пераконваюць нашыя кіраўнікі. Што вы маглі б сказаць на гэты конт?**

— Тое, што мае землякі-беларусы вельмі наіўныя людзі. Бадай, такіх наіўных няма больш нідзе ў свеце. Вы павінны ведаць, што мінулае не вернецца, сацыялізму не будзе. Цяпер за ўсё трэба плаціць. Не будзе грошай за нафту і газ — будзеце мёрзнуць, як і мы, на поўначы Расіі. А чаму няма грошай? Ды таму, што ў Расіі, як і ў Беларусі, пэўныя сілы стрымліваюць рэформы, займаюцца балбатнёй, а не справамі.

**— А якія размовы ходзяць наконт аб'яднання Беларусі з Расіяй?**

— Расійскія палітыкі-палітыканы ў сваіх выступах перад расійскай аўдыторыяй гавораць адкрыта аб далучэнні Беларусі да Расіі. На першым часе вам дадуць статус крыху большы, чым мае Татарстан. Але толькі на час. Потым рэспубліка будзе мець правы звычайнай расійскай вобласці. Мне запомніліся словы Чубайса пра тое, што ўсе суб'екты Расійскай Федэрацыі будуць жыць па аднаму закону.

Лічу, што Беларусь павінна застацца Беларуссю, а не "северо-западным краем" Расіі. Няўжо вы, мае землякі, горшыя за літоўцаў, украінцаў, палякаў, якія ніколі не здадуць сваю незалежнасць. У свеце паважаюць самастойных людзей, а не тых, хто поўзае на каленях.

**Алесь ДРАБЧУК.**

**Кто-кого**

## Борис Ельцин поздравил Александра Лукашенко, а Билл Клинтон — Семена Шарецкого

О том, что президент России Борис Ельцин поздравил с Новым годом Александра Лукашенко, знает каждый: неоднократно сообщалось по радио, телевидению, писалось во всех государственных газетах.

О том, что президент Соединенных Штатов Америки Билл Клинтон поздравил с Новым годом Семена Шарецкого, председателя Верховного Совета 13-го созыва, пока знает мало кто — официальные средства массовой информации об этом умалчивают.

А ведь в данном случае Семен Георгиевич может больше гордиться, чем Александр Григорьевич. Его поздравил не только сам американский президент, но и его жена Хиллари.

**Николай КРАВЧЕНКО.**

**Волнует!**

## Почему быть здоровым у нас не престижно?

По оценкам экспертов, уровень здоровья нации ныне в кризисном состоянии. Продолжительность жизни в республике продолжает снижаться. Согласно прогнозам, мужчины в Беларуси будут жить на 8—12, женщины — на 5—8 лет меньше. Зато заболеваемость только за период 1993—1995 годов выросла на 13 процентов. Медики обеспокоены ростом психических расстройств, гиперскачкой венерических заболеваний, увеличением количества инфекционных больных. И все это при одновременном распространении курения, пристрастия к спиртному, наркотическим и отравляющим веществам.

Несмотря на явное разрушение физического потенциала нации, остается невостребованным фактор формирования здорового образа жизни. Чтобы восполнить этот пробел, группой специалистов Министерства спорта и туризма разработана концепция республиканской комплексной программы "Формирование здорового образа жизни населения Республики Беларусь". В ее основу положены, в частности, принципы европейской политики здравоохранения "Задачи по достижению здоровья для всех к 2000 году", в которых определены права граждан на охрану здоровья, роль государства в пропаганде здорового образа жизни и повышении престижа здоровья как главного достояния общества.

**— В чем же причины безразличия к здоровому образу жизни у нас в республике?**

— Главное — в отсутствии государственного подхода к поддержке здорового образа жизни — сказал Михаил Юспа. — Нет даже экономических стимулов бережного отношения к собственному морально-физическому состоянию. Быть здоровым у нас не престижно. Отсутствует позитивный имидж человека, ведущего полноценный образ жизни. Парадоксально, но факт: сидеть на больничном зачастую экономически выгоднее, чем плодотворно трудиться и ярко жить.

**— Как будет реализовываться программа формирования здорового образа жизни?**

— Намечена целая система мероприятий, направленных на решение единой комплексной задачи — оздоровить каждого жителя Беларуси. Мы предлагаем пересмотреть факторы, определяющие здоровье. К ним относится и сбалансированное питание, и систематические занятия физическими упражнениями, правильная организация отдыха и досуга, поддержание позитивных социальных и сексуальных связей. Важным аспектом должны стать меры по сокращению курения, употребления алкоголя, психотропных средств.

Каждый аспект программы детально разработан. Так, в изменении привычек питания нужно стимулировать производство сбалансированных и экологически чистых продуктов по доступным ценам, внедрение прогрессивной системы маркировки продуктов. Другой важной задачей в укреплении здоровья считаю развитие возможностей для занятий массовыми видами спорта. Какой район может сегодня похвастаться успехами своей дворовой футбольной, волейбольной команды? Районные спортивные встречи ушли в прошлое. Чтобы преодолеть инерцию, нужны не только пропаганда спорта, но и строительство спортивных сооружений, и выпуск инвентаря и снаряжения, работа на предприятиях, учебных заведениях, по месту жительства. Есть необходимость создать в республике стройную систему обучения и воспитания населения в области сексуально-репродуктивного здоровья. И опять же, система знаний должна подкрепляться всеобщей доступностью безопасных и эффективных средств контрацепции и консультативных служб. Необходимой предпосылкой для предупреждения вреда, связанного с употреблением вызывающих зависимость веществ, станет запрещение всех видов рекламы опасных товаров, а также проведение образовательных теле- и радиопередач для детей и взрослых. В итоге программа позволит сформировать высокий спрос на личное здоровье каждого гражданина Беларуси. В комплексе с другими социально-экономическими мероприятиями реализация этой цели позволит до 2000 года стабилизировать основные показатели состояния здоровья населения и ликвидировать тенденцию к их ухудшению.

**Лариса НЕКРАСОВА.**
***(Вестник БЕЛТА "В кабинетах власти".)***

## Калі вырашыцца лёс Хадыкі і Сіўчыка?

Судовая справа затрыманых пасля Чарнобыльскага шляху і вызваленых амаль праз месяц лідэраў БНФ Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка можа стаць самай працяглай справай беларускай юрыспрудэнцыі.

Вядома, што пасля падзей 26 красавіка мінулага года Хадыку і Сіўчыка абвінавацілі ў арганізацыі і актыўным удзеле ў масавых беспарадках у сталіцы. Ім інкрымінуецца артыкул 186-3 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Следства па справе вядзе гарадская пракуратура Мінска. Адпаведна нашаму заканадаўству, тэрмін яе разгледжання складае 2 месяцы. Але спачатку следства было працягнута на месяц — да 27 ліпеня, потым яшчэ на два — да 27 верасня, пасля чаго дату разгледжання справы пракуратура вызначыла на 27 снежня. Аднак напярэдадні новага года суд так і не адбыўся. Усе мае намаганні даведацца, чаму так атрымалася, выніку не прынеслі. У гарадской пракуратуры адказалі, што следчы, які вядзе гэтую справу, зараз знаходзіцца ў адпачынку і з'явіцца на працу ў канцы студзеня. Што да лёсу Сіўчыка і Хадыкі, то следства працягнута яшчэ на тры месяцы.

Вячаслаў Сіўчык, каменціруя гэты факт, адзначыў: "Наша справа носіць чыста палітычны характар, і ўсе дзеянні ўлад будуць залежаць, на мой погляд, ад таго, як будуць разгортвацца падзеі на Беларусі далей.

Чаму суд не спяшаецца вырашаць мой лёс і лёс Юрыя Хадыкі, мне не зразумела. Я ўпэўнены толькі ў адным: суд дасць нам магчымасць выступіць і данесці да людзей інфармацыю аб тым, што на самай справе адбывалася ў тыя веснавыя дні і адбываецца зараз на Беларусі".

**Марыя НАРЭЙКА.**

**Далёкае – блізкае**



*Эх, Станіслаў Станіслававіч, не змаглі Вы ў свой час пераканаць народ, што яму трэба ісці толькі за Вамі... (Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч (у цэнтры) у адным з раёнаў Магілёўскай вобласці, 1992 год).*

## Прызы чакаюць тых, каму пашанцуе

Шаноўныя прыхільнікі "Народнай волі"! Пара, як вы ведаеце, падводзіць вынікі латарэі сярод тых, хто аформіў падпіску на першую палову 1997 года. У гэтыя дні рэдакцыя займаецца падрыхтоўчай работай да публічнага розыгрышу шматлікіх прызоў. Аб дакладнай даце і канкрэтным месцы яго правядзення мы паведамім пасля 15 студзеня. А сёння скажам: прызы чакаюць тых, каму пашанцуе. І шчыра дзякуем усім, хто падпісаўся на "Народную волю", — першую ў рэспубліцы штодзённую масавую **незалежную** газету.

***Вы — з "Народнай воляй"!***
***"Народная воля" — з Вамі!***

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

## Недаправілі...

У мінулым нумары мы надрукавалі інфармацыю "Пазьняк і Навумчык адхаласцякавалі...". Яна была падрыхтавана да друку яшчэ напярэдадні Новага года, але, на жаль, своечасова апублікаваць не змаглі. Таму трэба было ўнесці невялічкія праўкі з улікам на пройдзены час. З-за недагляду карэктара гэтага зроблена не было. Просім у чытачоў прабачэння. Дарэчы, ёсць прапанова: паведамляйце, калі ласка, пра любыя нашы хібы, памылкі, недакладнасці. У рабоце ўсялякае бывае, галоўнае — своечасова выправіць любую памылку. А наогул у нас існуе няпісанае правіла — газета павінна быць чэснай, праўдзівай, аб'ектыўнай.

## Ей 70 лет, но она больше меня разбирается в делах государственных...

Уважаемая редакция!

Это письмо написала моя мама. Она попросила меня переписать и отправить, но я решила: пусть будет ее рукой написано, она вашу газету просто боготворит.

У моей мамы очень нелегкая судьба, она рано осталась вдовой, воспитала нас, троих детей. И вот когда мы приезжаем домой, то она старается как можно больше с нами поговорить о вашей газете. Я вас очень прошу: не оставьте без внимания ее письмо. Напишите ей хоть несколько строк, она вам будет благодарна. Ей 70 лет, но она больше меня разбирается в делах государственных. Будьте великодушны!

Заранее вам благодарна.

**С уважением**
**(неразборчивая роспись).**

***ОТ РЕДАКЦИИ:***
*Вот с такой припиской пришло в "Народную волю" письмо Нины Егоровны Бирич из Оршанского района. Судя по почерку, автором предисловия является дочь Нины Егоровны. Нам приятно, что газета потихоньку доходит до глубинки, что ее читают не только молодые, но и люди постарше. Впрочем, о чем пишет Нина Егоровна Бирич? Вот ее письмо...*

## Люди, отходите от наркоза

Здравствуйте, уважаемая редакция!

Я — пенсионерка, раньше никогда не писала в газету. И сейчас все думала, но, наконец, решилась. Много хочется сказать, но даже не знаю, с чего начать. Сама я из деревни и прожила всю жизнь в сельской местности. Выписывала "Народную газету" с начала ее издания, а когда Лукашенко убрал главного редактора И.Середича, стала выписывать "Народную волю". Посоветовала сестра, сказала, что хорошая газета. И действительно: читая "Народную волю", я словно проснулась от наркоза коммунизма. Проснулась раньше своих деревенских, и мне все хочется знать.

Я давала своим сельчанам читать статьи Шарецкого, Дашука, а им все равно. Лукашенко хороший, а Верховный Совет — плохой. Я знала заранее, что будет по-лукашенковски. Знаете, многим не хочется отходить от наркоза. И я их понимаю: когда задумываешься серьезно о том, что же происходит, то жить становится труднее. И все же проснитесь, люди!

А к вам, журналисты "Народной воли", только одно пожелание: и впредь пишите правду.

Я подписалась на полгода и уже этим поддержала "Народную волю" — это я так думаю. Ну, а еще, участвуя в розыгрыше лотереи, мне хотелось бы выиграть хоть что-нибудь. Все-таки память о моей любимой газете...

С уважением —

**Нина БИРИЧ.**

Оршанский район.

Сообщите, пожалуйста, об итогах подписки на "Народную волю" на первое полугодие.

* * *

*Спасибо, Нина Егоровна, за искренность. Редакция газеты "Народная воля" желает Вам крепкого здоровья и долгих лет жизни. Что касается розыгрыша лотереи, то он, как мы уже сообщали, состоится в конце второй декады января.*

*Приятно, что читателей у "Народной воли" становится все больше и больше. По сравнению с последним кварталом прошлого года количество подписчиков возросло почти в полтора раза. Отрадно, что "Народная воля" стала первой в республике* ***массовой ежедневной*** *негосударственной газетой.*

**Вяртаючыся да надрукаванага**

## Праўда пра інцыдэнт у Брэсце

Шаноўны спадар рэдактар!

У 113-ым нумары "Народнай волі" быў змешчаны артыкул маладой журналісткі Марыны Рассафонавай "Как Иван Чурилович оказался в Польше". Згаданы матэрыял не зусім поўны: патрабуе пэўных удакладненняў. Больш таго, ён крыху ў скажоным выглядзе прадставіў не толькі майго калегу — супрацоўніка газеты "Шлях" Івана Чурыловіча, але і міжнародных назіральнікаў з Украіны, што былі ў Брэсце пад час правядзення сумнавядомага рэферэндуму, а таксама і іншых асоб, якімі быў выяўлены падлог дакументаў на выбарчым участку N 9 Маскоўскага раёна г.Брэста.

Зыходзячы з абставін, я лічу сваім маральным абавязкам даць поўнае ўяўленне пра тое, што на самай справе адбылося на выбарчым участку N 9 у СШ N 7 г.Брэста.

Перадгісторыя канфлікту наступная. Зважаючы на тое, у якой абстаноўцы праводзіцца рэферэндум у Беларусі, Еўрапарламент, Савет Еўропы, АБСЕ і іншыя арганізацыі прынцыпова адмовіліся ад запрашэння Цэнтрвыбаркама прысутнічаць 24 лістапада падчас правядзення рэферэндуму ў якасці міжнародных назіральнікаў. Аднак некалькі замежных няўрадавых арганізацый усё ж такі даслалі сваіх прадстаўнікоў. Сярод гэтай невялікай колькасці міжнародных назіральнікаў большасць складалі прадстаўнікі непартыйнай няўрадавай арганізацыі "Камітэта выбаршчыкаў Украіны". Гэтая арганізацыя існуе з 1994 года і за гэты час добра зарэкамендавала сябе як на Украіне, гэтак і на выбарах у Расіі, Польшчы, Малдове, Швецыі, ЗША і шэрагу іншых краін. Зусім нядаўна сябры арганізацыі пабывалі на прэзідэнцкіх выбарах у Малдове і, у адрозненні ад Беларусі, ніякіх праблем там не мелі, бо выбары насілі дэмакратычны характар.

У Беларусь прыехалі 19 сябраў "Камітэту выбаршчыкаў Украіны" і своечасова, як патрабуе закон — за два дні да рэферэндуму, зарэгістраваліся ў Мінску ў Цэнтрвыбаркаме ў якасці міжнародных назіральнікаў. Кожны з іх атрымаў адпаведныя пасведчанні за подпісам "в.а. старшыні Цэнтрвыбаркама" сп-ні Лідзіі Ярмошынай, тэкст Закона "Аб рэферэндуме" і іншыя дакументы, у якіх, між іншым, ім гарантаваліся пэўныя правы.

У Брэст прыехалі намеснік старшыні Камітэта выбаршчыкаў Украіны Яўген Радчанка і Аляксей Лычкавых. Натуральна, што яны зусім не збіраліся рэгістравацца за два дні на нейкіх канкрэтных участках у Брэсце ці ў іншых месцах у якасці назіральнікаў, бо ім гэта было ўжо непатрэбна пасля рэгістрацыі ў Цэнтрвыбаркаме ды і фізічна гэта практычна немагчыма рэалізаваць. Закон гарантуе міжнародным назіральнікам магчымасць назіраць за ходам галасавання і прысутнічаць падчас падліку галасоў на любым участку ў Беларусі, на якім яны пажадаюць. Таму ніякімі самазванцамі ці "несостоявшимися" назіральнікамі яны быць не маглі.

Аднак з іхнім статусам мала хто хацеў лічыцца... Асобныя старшыні ўчастковых камісій настолькі агрэсіўна сустракалі міжнародных назіральнікаў (хоць яны імкнуліся быць выключана ветлівымі ў любых выпадках), што нават заяўлялі, быццам яны з падробленымі пасведчаннямі. На двух участках міжнародныя назіральнікі нават засталі старшынь камісій, якія былі нападпітку, пра што склалі адпаведны пратакол. Каб атрымаць ад членаў камісій інфармацыю, якая мусіла быць даступнай *нават любому выбаршчыку* (спісы выбаршчыкаў і г.д.), даводзілася тэлефанаваць кожны раз "наверх", ездзіць ад участковай да раённай выбарчай камісіі і назад, весці доўгія і пустыя гутаркі, мэта якіх была адной — не даць міжнародным назіральнікам аб'ехаць вялікую колькасць участкаў, бо фактычна на кожным з іх назіральнікі з Украіны фіксавалі адступленне ад закону і таму вымушаны былі складаць масу пратаколаў аб парушэннях. Тым не менш там, дзе была вытрымана літара закону, украінцы нават спецыяльна адзначалі гэта ў журнале. Як сцвярджалі потым А.Лычкавах і Я.Радчанка, з такім агрэсіўным стаўленнем да іх як міжнародных назіральнікаў, з такім слабым веданнем членамі ўчастковых камісій Закона "Аб народным галасаванні (рэферэндуме)", з такой непавагай да самога закону і такой непрыхаванай аднабаковай агітацыяй яны сустракаюцца ўпершыню ў сваёй багатай практыцы... Падобнае жахлівае ўражанне пра ход рэферэндуму склалася і ў чэшскіх журналістаў Аляксандра і Аляксандры Малахоўскіх, якія таксама пабывалі на многіх участках Брэста і наваколля. Мясцовая ж "вертыкальная" прэса паспяшалася ахрэсціць тактоўных і вытрыманых міжнародных назіральнікаў з Украіны "крайне возбужденными молодыми людьми", "хулиганствующими гражданами", якія "несли откровенную похабщину", "провоцировали беспорядки", учынілі "драку", "рвали бюллетени" і г.д., а "Вечерний Брест" нават прыпісаў ім членства ва УНА-УНСО!

У артыкуле М.Рассафонавай сцвярджаецца, што быццам за дзень да рэферэндуму, на выбарчы ўчастак N 9, які размяшчаўся ў СШ N 7 г.Брэста, "явилась группа граждан — три женщины и двое мужчин, которые попросили зарегистрировать их в качестве наблюдателей". Гэта не адпавядае сапраўднасці. Я асабіста быў у той дзень на гэтым участку і сцвярджаю, што ніхто пра гэта і не прасіў, бо такой патрэбы проста не было. Людзі, што прыйшлі, мелі або статус міжнароднага назіральніка, які гарантуе прадастаўленне яму пэўнай інфармацыі адносна арганізацыі і ходу галасавання, або статус прадстаўніка прэсы, які проста выконвае рэдакцыйнае заданне і, акрамя таго, суправаджаюць гасцей у незнаёмым горадзе. Чаму не выканала патрабаванне закону і адмовіла ў прадастаўленні інфармацыі старшыня камісіі В.Новікава, цалкам зразумела — было адпаведнае ўказанне "зверху". Але яна і ўся камісія ў гэтай сітуацыі аказаліся, безумоўна, крайнімі, бо ўсё, што адбылося потым, таксама не было іх уласнай ініцыятывай.

У дзень галасавання на згаданым участку N 9 зноў з'явіўся адзін з украінскіх назіральнікаў — А.Лычкавах і супрацоўнікі газеты "Шлях". З'явіліся яны тут за пятнаццаць хвілін да заканчэння галасавання, аб'ездзіўшы перад гэтым цэлы шэраг іншых участкаў. Як і на шмат якіх іншых участках ніякай інфармацыі ім камісія не жадала прадстаўляць. (Я дапускаю, што падобнае ўказанне з'явілася пасля таго, як на ўчастку N 7 Маскоўскага раёна г.Брэста мне і міжнароднаму назіральніку Яўгену Радчанку ўдалося нават пасля беглага знаёмства са спісам выбаршчыкаў хутка выявіць некалькі аднолькавых подпісаў, зробленых яўна адной рукой. Аднак выпісаць іх нам не далі, адразу забраўшы спісы.) У рэшце рэшт, пасля тэлефанавання "наверх", А.Лычкаваху ўсё ж далі магчымасць прагледзіць спісы выбаршчыкаў.

Яшчэ падчас галасавання Іна Апанасенка звярнула ўвагу на падазроныя дзеянні за сталом жанчын з камісіі, якія, як ёй здалося, нешта хавалі пад абрусам. Пра свае падазрэнні І.Апанасенка паведаміла А.Лычкаваху.

Невядомая жанчына ў паліто, якая паводле сведчанняў А.Лычкаваха і суправаджаўшых яго асобаў, з'явілася перад самым закрыццём участка, пачала праяўляць надзвычай вялікую актыўнасць у кіраванні дзеяннямі камісіі. Гэта выклікала законнае пытанне А.Лычкаваха, якія яна мае тут паўнамоцтвы, бо прысутнасць пастаронніх асоб падчас падліку галасоў забаронена. У адказ ён пачуў: "Это не ваше дело!" Як потым высветлілася, жанчына з'яўлялася прадстаўніком выканаўчай улады.

У адпаведнасці з прадастаўленым законам правам Аляксей Лычкавах папрасіў дазволу прысутнічаць падчас падліку галасоў на гэтым участку. Але ў гэтым яму было рашуча адмоўлена па той прычыне, што для гэтага нібыта трэба было своечасова зарэгістравацца на ўчастку. (Дарэчы, другі міжнародны назіральнік Яўген Радчанка таксама не быў дапушчаны на падлік галасоў на ўчастак N 8 Маскоўскага раёна г.Брэста.)

Да гэтага часу са сталоў, за якімі сядзелі члены камісіі, ужо былі прыбраныя ўсе спісы выбаршчыкаў і нявыкарыстаныя бюлетэні. Як і скрыні для галасавання, яны былі вынесены ў іншы пакой, дзе павінен быў пачацца падлік галасоў. Спроба А.Лычкаваха даказаць сваё законнае права прысутнічаць пры падліку галасоў так і не знайшла разумення — ніхто нават і не збіраўся глядзець ні ў закон, ні на пасведчанне Аляксея Лычкаваха, падпісанае "в.а.старшыні Цэнтрвыбаркама" Л.Ярмошынай, якую прызначыў сам А.Лукашэнка.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

Народная Воля 9 СТУДЗЕНЯ 1997 г.

Открытым текстом

# Одним нужно платить даже за машину чернозема на клумбу у подъезда, а другим все достается за казенный счет...

Добрый день, уважаемая редакция!

Не мог бы кто-либо из журналистов взяться за статью о ЖСК — жилищно-строительных кооперативах? Ведь не секрет, что значительная часть населения республики живет и продолжает строить квартиры в этих самых ЖСК. В Бресте их уже более ста. Но это не говорит о том, что и домов 100. В нашем ЖСК — два восьмидесятиквартирных дома. Бывает ЖСК и побольше, покрупнее. Проблем — море! Они предоставлены сами себе, никому до них нет дела (кроме жильцов, естественно).

Построили мы квартиры за свои кровные советские рубли. Заселялись в 1978 году, уплатив в Госбанк СССР по 40% от стоимости квартир. К примеру, наша трехкомнатная стоила 8,5 тысячи рублей, значит, внесли примерно 3,5 тысячи рублей. В 1978 году — это были деньги, огромные деньги. Немного свадебных, остальные — родительские (дай Бог им здоровья!). Заселились, отремонтировались на радостях — и на 10 лет стали должниками у государства. Оставшаяся стоимость квартиры - за счет ссуды под 5% годовых. Один раз в квартал зарплату мы домой с мужем не приносили. А хотелось и мебель купить, и холодильник, и телевизор, и детей обуть-одеть и т.д. и т.п. Стали подрабатывать. Ну, конечно, выкрутились, выжили и рады-радехоньки, что вовремя решились в ЖСК вступить.

А до чего дружно с соседями жили. Субботники, благоустройство, ремонт подъездов, общие праздники! Да ни в одном государственном близлежащем доме такого не было и не будет! Давно позади последний срок оплаты ссуды, дети наши жениться стали, людей в квартирах прибавилось. Как мы ждали облегчения после уплаты ссуды и процентов по ней! А платим сейчас все больше и больше. Читаем в газетах, что растет неуклонно задолженность по коммунальным платежам, где-то уже до 50% доходит. Поинтересовались у себя в городе, а как же с платежами среди ЖСК? А нормально, говорят!!!

Мы-то уже привыкли за все платить: и за машину чернозема на клумбу у подъезда, и за ограждения, и за краску, и за лавочки, и за выбитый асфальт, и за лампочки, и за дворника, и за сломанную кем-то дверь в подъезде, и за работу председателя и бухгалтера. В прошлом году мы оплачивали даже вывоз мусора не только за себя, но и за жильцов государственного сектора.

Мы не получили от государства ничего бесплатно (за землю, на которой стоит дом, тоже платим); мы все купили, но хозяевами себя не ощущали никогда. Ни хозяин квартиры, ни правление ЖСК не могли продать квартиру по своему разумению. Даже и сейчас, когда многое в стране поменялось и можно продать и купить квартиру, — нам поставили условие: оформите право собственности на квартиру. Для этого нужно собрать справки и уплатить бюро технической инвентаризации 102 тысячи рублей.

Соседи из государственных домов почти за такую же цену приватизировали подаренные государством квартиры, свободно их продают. Почему такая разница? Ведь мы граждане одного государства, одинаково платили в бюджет. Но почему-то мы ремонтировали квартиры, меняли плиты, заделывали швы сами, а им это сделало государство. Досадно становится, когда читаешь в газете, как люди ждут годами, жалуясь во все инстанции, ремонта квартир, домов. Как можно? За наши общие деньги получили квартиру, так еще и ремонта ждут. Разве можно сравнить состояние домов ЖСК и ЖЭСов? Люди не ценят то, что легко дается.

Вот и есть у нас предложение. Только к кому? К Кабинету или Совету министров, к Сенату или Верховному Совету? Компенсируйте ЖСК стоимость квартир. Стоила она 8 тысяч рублей в 1978 году, отдайте 8 тысяч долларов США. Нереально? Хорошо, давайте пересчитаем эту сумму в коммунальные платежи, и мы не будем платить за свет, газ, воду, вывоз мусора и т.д. и т.п. несколько лет.

Одним словом, есть проблема. Чтобы что-то решить, надо хотя бы заговорить, высветить вопрос, изучить его.

Помогите, уважаемые журналисты! Очень на вас надеемся.

**Алла ШЕЛОНИК,**
г.Брест.

***ОТ РЕДАКЦИИ.***

*Чтобы поднять очень важную тему, Алла Александровна Шелоник просит взяться за перо журналистов "Народной воли". Хотя сама же интересно рассказала о многих наболевших вещах. Думается, что и другие читатели продолжат начатый разговор. А редакция, конечно же, постарается подойти к теме со своей стороны. Смотришь, и что-то изменится в лучшую сторону.*

Знаете ли вы...

## Почему академики и профессора неохотно едут в президентскую больницу

В Минске ее по старой памяти называют лечкомиссией. А еще — главной президентской больницей. Хотя кое-кто величает и титенковской — она входит в структуры, подчиненные Управлению делами, которым безоглядно командует небезызвестный Иван Иванович.

Все знают и лечащийся в ней контингент — боль-шие люди! А значит, и отношение к ним должно быть соответствующим. Нужна консультация академика — он тут как тут, профессора — еще быстрее.

Только одна маленькая неувязочка — раньше за консультантами-академиками или консультантами-профессорами присылали лимузины, теперь же, то ли от скудности больничной казны, то ли от высокомерия тех, кто приглашает консультантов, — подумаешь, академик! — но бедным светилам приходится добираться в известную всем лечкомиссию общественным транспортом. Многим даже на перекладных. Как минимум три тысячи рублей — в одну сторону и столько же — в другую.

А сколько же платят за консультацию одного больного? Пять процентов от размера минимальной зарплаты. Проконсультировал за час двух больных — получай тринадцать тысяч "зайчиков".

Неохотно едут академики и профессора в президентскую больницу. Но попробуй не поедь...

**Антон КАПСКИЙ.**

# ПАТУХЛА ВОГНІШЧА...

**Юлія АНДРЭЕВА.**

Беларускае тэлебачанне ўпарта вяшчае ў пустэчу. Бывае, што прыстойны тэлевізар сам адмаўляецца яго прымаць. Але гаспадароў гэта нямала не бянтэжыць: пра навіны можна даведацца і па НТБ, ГРТ, каналу "Расія"...

Але не ўсё ж палітыка! І нават не ўсё — убогія забавы. Хочацца чагосьці пазнавальнага, нятленнага, прыгожага ды вечнага. Адным словам — культуры...

Мяркуючы па праграмах перадач, дык Беларускае тэлебачанне проста зацыклілася на гэтай праблематыцы. Дзень за днём яно частуе нас "фестывалямі", "галерэямі", "творцамі", "аўтарскімі канцэртамі"... Падобнае не снілася аніякім "Российским университетам"!

Але якасць... Шчыра кажучы, я не разумею, для каго робяцца гэтыя перадачы: ці не для саміх "творцаў"? Ці не для іхніх сваякоў ды знаёмых?.. Што ж, для сямейнай відэатэкі гэтыя "партрэты", магчыма, і прыдатныя. Але не для дзяржаўнага тэлебачання.

...Вось, напрыклад, цэлая гадзіна эфірнага часу змарнаваная на творчы партрэт заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Ларысы Максімавай. Гэта магло быць даволі цікава; канцэртмайстар жа — гэта найболей масавая музычная прафесія, якая разам з тым вечна застаецца ў цені. Памятаеце, у Абразцова ў "Надзвычайным канцэрце": "за раялем тое ж, што было і даўней"?

Тым каштоўней тыя нямногія музыканты, якія ў гэтай сціплай ролі здолелі дасягнуць грамадскага прызнання. І, мабыць, яны маглі б распавядаць нашай публіцы дзівосныя рэчы... Але куды там! Іх твары, іх галасы па-ранейшаму застаюцца за кадрам. Затое бітую гадзіну на экране мільгацяць нейкія людзі, славутыя і не вельмі, і дзяўбуць адно і тое ж: якое шчасце, што спадарыня Максімава дапамагла ім зрабіць кар'еру! Як нібыта іх поспехі, іх канцэрты і запісы — нешта бясспрэчна каштоўнае для ўсяго чалавецтва. Адна толькі Наташа Руднева — як заўсёды, беззаганна жывая — сказала пару нармальных слоў: маўляў, раней кватэры былі па суседству, можна было нават грошы пазычыць...

Так размаўлялі госці перадачы, а што ж гаспадыня?.. Я маю на увазе Ганну Кашуру — аўтара і вядучую ў адной асобе. Цудоўная кабета! Як гэта часта ў нас бывае, яна не вызначаецца залішняй тэлегенічнасцю. Дый думкі ёй у галаву прыходзяць нейкія жудасныя: "Зараз адзначаецца 30-годдзе Вашай творчай дзейнасці. Ці не час падводзіць вынікі?"

...На шчасце, усе гэтыя "мілыя" гутаркі былі пікантна прыпраўлены музыкай. У кадры адзін за адным з'яўляліся спевакі, спадарыня Максімава зноў ды зноў схілялася над клавіятураю (від ззаду, від збоку)... Так што, нарэшце, зусім натуральна было забыцца пра яе і захапіцца параўнаннямі: хто з салістаў лепей пяе, хто лепей выглядае. Калі, зразумела, удавалася нешта пачуць ці разглядзець; бо якасць запісаў, якія выкарыстоўваліся ў перадачы, ці не ў палове выпадкаў не дасягала нават звычайнага аматарскага ўзроўню.

...Наташа Руднева, як заўсёды, спявала вельмі добра.

Ды вось бяда: паміж гаворкай і музыкай не было ні малейшай сувязі. Кажуць пра Чайкоўскага, а гучыць Грыг, дарэчы, без усякіх тытраў. Ды зрэшты, перадачка ж для "сваіх", яны і так здагадаюцца! Для тых, хто і так усё ведае пра Ларысу Паўлаўну: хто былі яе бацькі, дзе яна вучылася, і што працуе яна, між іншым, на Беларускім тэлебачанні і радыё, і што неабвешчаны малады аматар — гэта яе сын. Так навошта марнаваць сілы на нейкую там інфармацыю?

Затое наконт "ажыўляжу" тут не жмоцяцца: спадарыня Максімава з сябрамі на лоне прыроды, потым чаяпіцце з разгляданнем фотаздымкаў... Усё тыя ж бессмяротныя банальнасці.

Асабліва спадабалася мне вышэйзгаданае лона. Прыгожы, але макраваты беларускі ландшафт. Іл'е дождж, патухае вогнішча, вакалісты з размочанымі валасамі, у куртках і гумавых ботах (бездань паэзіі!), змрочна мяркуюць, ці не пачнецца ў іх раніцай бранхіт. Кампазітарка Галіна Гарэлава, сціскаючы ў руках неверагодна агромністы чорны мікрафон (якія рарытэты маюцца на нашым Беларускім тэлебачанні?!), доўга і нудна распавядае пра тое, што спадарыня Максімава вельмі падобная на... прыроду. Мабыць, такая ж плаксівая? Ды не. Асабіста я ў гэта не веру: занадта ўжо твар у яе валявы ды вясёлы.

Вы пытаецеся, навошта тэлебачанне наладзіла здымкі пад даждждом? Не маю ўяўлення. Хутчэй за ўсё, не параіўшыся з нябёсамі, музычная рэдакцыя замовіла на гэты дзень апаратуру і... Ведаеце ж, апаратура на Беларускім тэлебачанні — дэфіцыт: даюць — бяры, бо наступнага разу не будзе.

А з іншага боку — нават і добра, што так атрымалася. Уявіце сабе толькі "арыгінальную" задумку: залатая восень, якая сімвалізуе творчую сталасць гераіні; усе пані на абцасіках; кошык, што куплены разам з грыбамі ў бліжэйшых калгаснікаў... А так — хаця б дождждык, хаця б крыху турысцкай рамантыкі, хаця б гітара, якая падмокла ў руках спевака.

...Цырульнікі вельмі рупліва стрыгуць сваіх калег. У гастраноме "Сталічны" ёсць сталовая для прадаўцоў і касіраў, дзе гатуюць з найлепшых прадуктаў. І толькі Беларускае тэлебачанне неяк дзіўна клапоціцца пра сваіх супрацоўнікаў. Дзіўнае тэлебачанне... Мабыць, найдзіўнейшае ў свеце.

Крымінал

## Грабежнік з цацачным пісталетам

Позна вечарам недалёка ад пасёлка Сосны Мінскага раёна ў машыну "Жыгулі" сеў узброены пасажыр. Пагражаючы вадзіцелю пісталетам, ён паспрабаваў завалодаць аўтамабілем. Аднак уладальніку машыны ўдалося выпіхнуць бандыта з салона і паехаць.

Паводле звестак прэс-цэнтра МУС, праз дзве гадзіны каля мікрараёна Шабаны злачынцу затрымала дарожна-патрульная служба ДАІ. Міліцыя вельмі здзівілася, калі высветлілася, што пісталет, з дапамогай якога ён збіраўся ўкрасці аўтамабіль, - цацачны.

## Навошта столькі аптэчак?

Ад адміністрацыі паліклінікі нумар 13 у Савецкі РУУС паступіла заява аб прапажы са склада 200 аднаразовых аптэчак. Як паведаміла прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкома, крадзёж учынілі 14-гадовы школьнік і яго 16-гадовы таварыш, раней судзімы. Што яны збіраліся рабіць з такой колькасцю аптэчак, трэба будзе высветліць следству.

**Марыя МАЛІНОЎСКАЯ,**
**БЕЛТА.**

## Мысли великих людей

*Свободе — привет*
*и почет!*

*Пускай бережет ее Разум.*

*А все тирании пусть дьявол*
*возьмет,*

*Со всеми тиранами разом!*

**Роберт Бёрнс.**

Стоп-кадр



Хоць на Каляды павесяліліся...

## Работы Рэрыха ў Палацы мастацтваў. Упершыню

Днямі ў сталічным Палацы мастацтваў адкрылася выстава факсімільных рэпрадукцый (камп'ютэрных копій) Мікалая Рэрыха.

Такога роду рэпрадукцыі прадстаўлены на Беларусі ўпершыню. Мастацтвазнаўцы нават заўважаюць, што тэхніка капіравання настолькі дасканалая, што, па суці, беларускія аматары Мікалая Рэрыха могуць пабачыць амаль тыя ж самыя 80 карцін, якія знаходзяцца ў Нью-йоркскім музеі мастацтваў.

**Марына АЛЯКСАНДРАВА.**

# Праўда пра інцыдэнт у Брэсце

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.)**

Дзве жанчыны з камісіі пачалі прыбіраць абрусы. Але нейкімі надта ўжо нязграбнымі былі іх рухі. Гэта выклікала новыя падазрэнні. І тады І.Апанасенка машынальна адгарнула край абрусу і ўсе пабачылі масу схаваных нявыкарыстаных бюлетэняў, якія, відаць, спрабавалі незаўважна вынесці ў іншы пакой. Гэта выклікала страшэнны перапалох і вэрхал сярод членаў камісіі. Усе бюлетэні, як вядома, павінны былі быць падлічаныя і апячатаныя. Ніхто не здолеў даць тлумачэнне, чаму бюлетэні аказаліся схаваныя пад абрусам. Члены камісіі літаральна накінуліся на А.Лычкаваха, якому былі перададзены некалькі схаваных бюлетэняў. Крычалі нават, што быццам А.Лычкавах сам падсунуў пад абрус бюлетэні... Калі ж А.Лычкавах запатрабаваў пусціць яго ў памяшканне на падлік галасоў, доступ яму заблакавалі два міліцыянеры.

Усе гэтыя непрыглядныя справы ўдалося сфатаграфаваць супрацоўніку газеты "Шлях" Івану Чурыловічу.

Праз некаторы час на месца скандальнага інцыдэнту прыбыла падмога — узброеныя аўтаматамі міліцыянты на чале з вядомым дэпутатам-прыхільнікам Лукашэнкі Віктарам Кучынскім. Рэакцыя Кучынскага на інцыдэнт на ўчастку не прымусіла доўга чакаць. "Арыштаваць усіх!" — такім быў ягоны загад. І.Апанасенка паспела, аднак, патэлефанаваць у мясцовую Раду БНФ, дзе месціўся штаб грамадскай кантрольнай камісіі па правядзенні рэферэндуму і папярэдзіць пра інцыдэнт. Каб высветліць сітуацыю, на ўчастак паехалі Галіна Дрэбезава (юрыст, старшыня абласной арганізацыі АГП), калега А.Лычкаваха Яўген Радчанка і чэшскія журналісты Аляксандра і Аляксандр Малахоўскія. Але на ўчастак іх і блізка не падпусцілі.

У выніку былі затрыманыя як "злосныя хуліганы" і дастаўленыя пад дуламі аўтаматаў у Маскоўскі РАУС г.Брэста Іван Чурыловіч, Іна Апанасенка, Ніна Карпінчык, а таксама вадзіцель машыны І.Кандрацьеў, які прыехаў на ўчастак, каб забраць усіх пасля падліку галасоў. Апошні нават не заходзіў у памяшканне, дзе праходзіла галасаванне і не бачыў самога інцыдэнту, але яго потым абвінавацілі ў хуліганстве і мацяршчыне ў адрас членаў камісіі! Калі міліцыя выводзіла са школы міжнароднага назіральніка з Украіны Аляксея Лычкаваха, ён паспрабаваў збегчы, бо лічыў, што паступіў загад адабраць і знішчыць складзеныя ім і калегам Я.Радчанкам пратаколы і фотастужку пра шматлікія парушэнні падчас рэферэндуму. Гэта яму ўдалося, але а 5-й гадзіне ранку ён усё ж быў затрыманы.

Чэшскія журналісты разам з Г.Дрэбезавай і Я.Радчанкам паехалі следам за затрыманымі, каб у РАУС паспрабаваць разабрацца ў сітуацыі. Але спроба чэшскіх журналістаў атрымаць інфармацыю закончылася тым, што іх проста груба вышпурнулі.

Далей гэты скандальны інцыдэнт набывае яшчэ больш дзіўны характар. Каля памяшкання Рады БНФ, куды вярталіся чэшскія журналісты, Г.Дрэбезава і Я.Радчанка, іх машыну затрымалі і ўсе яны разам з вадзіцелем былі дастаўлены ў абласное ўпраўленне ўнутраных спраў. Як сцвярджалі затрыманыя, ніхто з іх не аказваў ніякага супраціўлення дзеянням міліцыі. Аднак афіцэры, што праводзілі іх затрыманне, вялі сябе вельмі груба. Каля трох гадзін іх пратрымалі ў памяшканні дзяжурнага. У нумары гасцініцы "Буг", дзе спыніліся А.Лычкавах і Я.Радчанка, ноччу, невядома на якіх падставах, быў учынены вобыск.

Прыкладна каля чацвёртай гадзіны ночы з Маскоўскага РАУС нарэшце выпусцілі І.Апанасенка і Н.Карпінчык. Ні ім, ні іншым затрыманым нават не далі магчымасці патэлефанаваць дадому, каб папярэдзіць сваякоў.

І.Чурыловіча, якога не выпусцілі з РАУС, кінулі ў камеру. Перад вобыскам яму ўдалося незаўважна схаваць фотастужку з падзеямі на ўчастку. А 12-й гадзіне ночы яго выклікалі на допыт. Следчы пужаў яго 10 гадамі турмы, крычаў: "Утром будет новая Конституция, утром увидишь!" Пасля двух гадзін допыту ўвайшоў іншы міліцыянт. Як сцвярджае І.Чурыловіч, той прыпомніў, што на адным з участкаў, дзе ён дзяжурыў, Чурыловіч разам з А.Лычкавахам склалі пратакол пра парушэнне закону. Тады міліцыянт пачаў біць яго ў твар і ў жывот у прысутнасці следчага, які ніяк на гэта не рэагаваў. Потым яго кінулі ў камеру 2,5 х 3,5 метры. У ёй І.Чурыловіч быў ужо дзесяты. Усю ноч там гарэла яркае святло і гучала на ўсю моц музыка, якую ніхто не мог выключыць...

Справа на трох затрыманых — украінца А.Лычкаваха, беларуса І.Чурыловіча і рускага І.Кандрацьева (як яны сумна жартавалі між сабой — прадстаўнікоў сапраўднага славянскага адзінства) была перададзена ў Маскоўскі раённы суд. 25 лістапада а 15-й гадзіне іх прывезлі ў суд, дзе І.Чурыловіч, на якім яскрава былі бачны сляды пабояў, здолеў перадаць схаваную фотастужку. Яе адразу праявілі і раздрукавалі. Прыйшоў адвакат, сабраліся людзі, якія вырашылі падтрымаць тых, хто выявіў падлог дакументаў па рэферэндуму на ўчастках, але сам жа аказаўся вінаватым. Суддзя сказала затрыманым, што яны абвінавачваюцца ў дробным хуліганстве (арт. 169 АК, максімальна — да 15 сутак ці штраф).

Аднак суд так і не адбыўся. У памяшканне раптам увайшлі міліцыянты і зноў усіх траіх арыштавалі і павезлі ў Маскоўскі РАУС. Разам з імі чамусьці арыштавалі і Яўгена Радчанку (у яго была праяўленая фотастужка?), які нават не быў на ўчастку, дзе адбыўся інцыдэнт. Гэтыя дзеянні выклікалі абурэнне прысутных — ніякіх тлумачэнняў сваім дзеянням міліцыянты не далі, спасылаліся на суддзю, але тая сцвярджала, што таксама нічога не ведае. Ужо ў РАУС затрыманым паведамілі, што суддзя ўгледзела ў прадстаўленых на іх міліцыяй матэрыялах "злоснае хуліганства" і справа перададзена на даследаванне ў пракуратуру, а ім цяпер пагражае ўжо арт. 201, ч.2 Крымінальнага кодэксу — ад 2 да 5 год. Я.Радчанку праз некаторы час усё ж выпусцілі і згадалі 26 лістапада з'явіцца ў пракуратуру.

25 лістапада пра затрыманне ўкраінскіх назіральнікаў у Брэсце ўжо ведаў прэзідэнт Украіны Л.Кучма, які ўзяў справу на асабісты кантроль. Пра інцыдэнт у Брэсце ішла гаворка на 2-гадзіннай прэс-канферэнцыі ў Кіеве, якую далі вярнуўшыеся з Беларусі іншыя ўкраінскія назіральнікі. Праўду пра рэферэндум у Беларусі расказалі ў сваёй краіне чэшскія журналісты.

26 лістапада каля 3-й гадзіны ночы быў адпушчаны дадому да суда Ігар Кандрацьеў, а каля 4-й гадзіны — Іван Чурыловіч. Як сцвярджае І.Чурыловіч, ад яго патрабавалі, каб любой цаной дастаў фотастужку, на якой зафіксаваныя падзеі на ўчастку. Зразумела, яе яўна баяліся, бо як тады патлумачыць затрыманне невіноўных людзей? Фотастужкі ў РАУС не дачакаліся. Зважаючы на маральны ціск, пагрозы і прымяненне фізічнай сілы, якія былі ўжытыя падчас следства, Іван Чурыловіч бліжэйшым цягніком з'ехаў у Варшаву. 28 лістапада ён напісаў афіцыйнае прашэнне ў МУС Польшчы з просьбай аб палітычным прытулку... Польская прэса, тэлебачанне і радыё ўдзялілі вялікую ўвагу гэтаму скандалу ў Брэсце. На красавік І.Чурыловічу польскія ўлады прызначылі першае субяседаванне адносна канчатковага вырашэння ягонай справы. Пакуль жа ўлады гарантавалі яму часовы прытулак і абарону ў Польшчы.

26 лістапада а 14-й гадзіне Яўгену Радчанку ў пракуратуры паведамілі, што ён больш ні ў чым не падазраецца і ён свабодны. Як сцвярджае ўкраінскі пасол сп.Міхаіл Маскаленка, каб стаць свабодным, Яўгену давялося ўплаціць штраф у памеры 500 000 рублёў. Але ўзнікаюць пытанні — за што ж ён быў двойчы затрыманы, што ў яго шукалі і за што ўсё-такі пакаралі, калі ён нават не знаходзіўся на скандальным участку N 9 Маскоўскага раёна г.Брэста?!

Аляксей Лычкавах больш за ўсіх знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрымання Маскоўскага РАУС г.Брэста. Позна ўвечары 27 лістапада прадстаўнікі грамадскасці Брэста арганізавалі збор подпісаў вядомых асоб горада (як палітыкаў, якія былі прадстаўлены ад БНФ да ПКБ, так і прадстаўнікоў розных грамадскіх арганізацый, журналістаў, мастакоў, пісьменнікаў; усяго было сабрана некалькі дзесяткаў подпісаў) у абарону Аляксея Лычкаваха. У заяве, якая была перададзена ранкам у пракуратуру і мясцовую прэсу, выказваўся пратэст супраць такога абыходжання з міжнародным назіральнікам, выказвалася патрабаванне яго неадкладнага вызвалення і прыцягнення да адказнасці сапраўдных вінаватых у бессаромным парушэнні закону. Толькі 28 лістапада ў 22.30 А.Лычкавах быў выпушчаны з ізалятара пад заклад. "Злоснаму хуліганну", які выявіў на ўчастку схаваныя бюлетэні для галасавання на рэферэндуме, чацвёра сутак давялося правесці разам з наркаманам, забойцам і іншымі падобнымі асобамі! Гэта ўжо не кажучы пра жахлівыя ўмовы ўтрымання ў самім ізалятары, дзе было вельмі вільготна і холадна. А дадаткова, за тое, што ён выявіў на ўчастку N 9, яму прыйшлося заплаціць яшчэ 500 000 рублёў штрафу. Во дзе сапраўдны разгул "дэмакратыі"! Ведай нашых!

Увечары 29 лістапада ўкраінскім міжнародным назіральнікам Аляксею Лычкаваху і Яўгену Радчанку нарэшце ўдалося пакінуць "гасцінную" Беларусь. За маларыцкай мытняй на сваёй зямлі іх абнялі ўкраінскія мытнікі і дапамаглі дабрацца да Кіева. Больш прыязджаць у Беларусь, нягледзячы на запрашэнні новых сяброў у Беларусі, ім не хочацца. Пра тое, што пабачылі ў Брэсце і наваколлі падчас рэферэндуму і пасля яго, Яўген Радчанка і Аляксей Лычкавах асабіста расказалі па прыездзе ў Кіеў прадстаўнікам адміністрацыі прэзідэнта Украіны, а потым далі прэс-канферэнцыю для ўкраінскіх і замежных журналістаў. Справа ж у Брэсце, верагодна, будзе замятая.

**Ігар БАРАНОЎСКІ,**
**журналіст газеты "Шлях".**

Дыпламатычны кур'ер

## Расійскія інтарэсы ў Беларусі будзе прадстаўляць Валерый Лашчынін

**Апошні дзень у мінулым 1996 годзе стаў першым рабочым днём новага Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Валерыя Лашчыніна.**

Валерый Васільевіч Лашчынін нарадзіўся ў 1940 годзе. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт і Дыпламатычную акадэмію МЗС СССР. На дыпламатычнай рабоце - з 1965 года. З 1989 па 1995 год займаў пасаду намесніка пастаяннага прадстаўніка СССР і Расіі пры ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе. З 1995 года - дырэктар Другога еўрапейскага дэпартамента Міністэрства замежных спраў Расіі. Цяпер мае дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

Валерый Лашчынін жанаты. Мае траіх дзяцей.

**Вадзім МІЛІЦЫН,**
**БЕЛТА.**

